Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem
Вільня, 10-га студзеня 1934.
№ 1 (26).
Год 2-гі

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

*Шчыра дзякуем усім тым нашым чытачом і працаўнікам на правінцыі, якія прыслалі ў Т. Б. А. і Рэдакцыю „Роднага Краю" свае сьвяточныя і навагоднія прывітаньні і добрыя пажаданьні.*

*З свайго боку вітаем усіх нашых чытачоў і культурных супрацаўнікоў на ніве роднай асьветы з Новым Годам, жадаючы ўсім ім, як і ўсяму нашаму працоўнаму народу, перад усім — жывога і бадзёрага духу і веры ў лепшую будучыню. Гэтым мы пераможам!*

*Прэзыдыум Т. Б. А.*
*Рэдакцыя „Роднага Краю".*

## З навагодніх матываў.

Мароз....
На двары—трыццаць Рэомюра,
І круціць, звонячы, мяцель.
Так няпрыветна і панура
Мая убогая пасьцель!

Аб чым пісаць?...
І як мне выславіць у песьні
Мае убогае жыцьцё?
На сьценах хаты ўжо ня плесьні
А зьяе іней серабром.

Гадзіны йдуць—і думы з імі—
У свой няскончаны паход.
І словы просяцца у рымы:
Ізноў вітаюць Новы Год.

Ў бядзе, клапотах, паўгалодны
Я замыкаю год стары
І знаю, што ў Краіне роднай
Не адзін я сяньня такі!

Але я моцна, моцна веру
Ў Цябе, Народ, што Ты—жывы.
Ня Новы год адчыніць дзьверы:
Ты сам—для новае пары!

І мо' таксама ў паняверцы
Прайдзе і гэты новы год, —
Але на год бліжэй, паверце,
Да мэты будзе наш народ!

Таболы, 31. XII. 1933. **М. Машара.**

## Навагоднія думкі.

Пачынаем новы—1934-ты год.

Сумныя былі для нашага народу апошнія гады. Кожны прыносіў з сабой для нас нешта благое, нейкі новы ўдар. Не адзін такі ўдар прынёс і 1933 год: завастрэньне барацьбы Чырвонае Масквы з усімі праявамі беларускае нацыянальнае самастойнасьці—на Усходзе; стаўка на „самаліквідацыю" беларусаў — на Захадзе... Які-ж можа быць гэты новы год, каторы йшчэ толькі пачынаецца?

Кажуць, што ў месьце Дамаску, у Арабіі, дзе выкоўвалася ад вякоў найлепшая сталь на шаблі, сталь гэную кавалі разам са шклом. Шкло, ведама, крышылася ў пыл; але сталь набірала нязвычайнае цьвёрдасьці і моцы.

Так і з нашым народам. Цяжкі молат жыцьця ўсьцяж б'ець па нас. І ўсё крохкае разьлятаецца, як гэнае шкло, у порах, у пыл. За тое-ж крапчэе йшчэ больш тое, што здольна да жыцьця: пад грозьненымі нам ударамі выкоўваецца **нязломны, несьмяротны дух жывога народу.**

Ня верыце? Хочаце фактаў?—Вось яны.

Ад 1929 году — ад мамэнту перамогі маскоўскага чырвонага нацыяналізму над ленінскім інтэрнацыяналізмам — у Савецкай Беларусі распачаўся пагром беларускае інтэлігенцыі. Каля двухсот беларускіх культурных працаўнікоў — прафэсароў, асьветных дзеячоў і т. д.—былі арыштаваны і з лёхаў ГПУ парассыланы па ўсей тэрыторыі СССР, ад знамянітых Саловак да Каўказу, ад Волгі да ўсходніх межаў Сібіру. Маскоўскія нацыяналісты трыумфавалі: „галоўка" зьнята, і беларускія масы пакорна пойдуць з новымі павадырамі, прысланымі з Масквы.

Але трымф аказаўся перадчасным: беларускія масы, беларускія сяляне і работнікі аказаліся, гаворачы словамі савецкае прэсы гэтак „заражанымі беларускай нац-дэмаўшчынай" (разумей: нацыянальнай ідэяй!), што і без павадыроў даюць адпор маскоўскім наскокам. Аб гэтым сьведчыць апошняя канфэрэнцыя КПБ ў Менску, пасьвячоная барацьбе з „нацдэмаўшчынай" у масах. Аб гэтым красамоўна гаворыць „чыстка" ў самай камуністыч-

най партыі ў БССР, з якое — на агульную лічбу 50.000 сяброў — выдалена каля 10.000, або пятая частка, ізноў-жа пераважна абвінавачаных у беларускай „нацдэмаўшчыне“. У адным толькі Менску, як падае польская прэса, з агульнае лічбы 10.103 сяброў компартыі выкінулі 1.185 сяброў, пераводзячы ў кандыдаты—867, у сымпатыкі—540.

Мала вам гэтага? Скажаце: гэта — там, на Усходзе; але тут, на Захадзе...

Ды што-ж на Захадзе? Што беларуская інтэлігенцыя расьцярушана, разгромлена і адарвана ад народу стараньнямі ўрадаў суседніх дзяржаў, — гэта ведама ўсім. Што найгоршыя элементы нашае вёскі дэнацыяналізуюцца,—і гэта ведама. Але ўслухайцеся ў тое, што гаворыць вёска між сабой, прыглядзьцеся, як яна на руінах арганізаванага беларускага жыцьця пачынае адбудоўвацца, як гэроічна бароніць свае культурныя арганізацыі і ўлівае ў іх новае жыцьцё, гонячы ўсялякіх палітыканаў і дэмагогаў вон ад сябе,—і вы зразумееце, што, як і на Усходзе, беларуская маса прадаўжае жыць сваім нацыянальным жыцьцём і, хоць адарваная ад сваіх старых ідэйных павадыроў, выпаўняе саматугам іхнія запаветы. У беларускай вёсцы канчаецца пара адліву і пачынаецца новы прыліў. І абыймае ён ня толькі вёску: гляньце на беластоцкіх работнікаў, як яны горача бяруцца за беларускую культурную працу,—і ўбачыце і тут пачатак таго-ж прыліву ў месьце.

Ведама, гэта толькі пачатак прыліву. І мы, знаёмыя ўжо з падобнымі праявамі прыліву і адліву ў нашым нацыянальным руху, на пачатку гэтага новага году з цьвёрдай верай глядзім у будучыну. Якія-б удары звонку нас ні чакалі сёлета, яны ня здолеюць ужо затрымаць таго народнага, візавога масавага руху, які мусіць разьліцца па нашай зямлі магутнай хваляй.

Гэта—непераможны закон жыцьця.

# Да усіх сьведамых беларусаў.

Грамадзяне!

Нячуваны эканамічны крызыс, які шалее ў беларускіх вёсках, ня толькі адбіваецца жудасным рэхам на нашай сучаснасьці, але й нашай будучыні пагражае нязвычайна цяжкімі вынікамі. Вёска, ня маючы магчымасьці дасыта карміць сваіх дзяцей, тым больш ня можа даць ім тае эдукацыі, якая неабходна дзеля ўзгадаваньня новых беларускіх інтэлігентаў—будучых павадыроў народу і працаўнікоў дзеля ягонага шчасьця і долі. Хто йшчэ колькі гадоў назад мог пасылаць свайго сына ці дочку ў беларускія гімназіі, той цяпер ня мае чым ані за навуку заплаціць, ані пракарміць іх у горадзе. І дзецям пагражае зрыў распачатае навукі і разьвітаньне з роднай школай. У Беларускай Філіі Дзяржаўнае Гімназіі ім. Ю. Словацкага ў Вільні мае быць звольнены рад вучняў за няўплату платы за першыя паўгодкі. Такі сумны лёс спаткаў ужо і значную лічбу вучняў Беларускае Філіі Дзяржаўнае Гімназіі ім. Ад. Міцкевіча ў Наваградку.

Грамадзяне! Зразумейце, што выдаленьне са школы гэткае значнае лічбы беларускіх дзяцей, спасярод каторых іншым астаецца па поў — паўтара году да сканчэньня навукі, — гэта-ж ёсьць зьмяншэньне нашае нацыянальнае сілы ў будучыні, зьмяншэньне лічбы будучых чынных культурных працаўнікоў на беларускай народнай ніве. Зразумейце гэта і дапамажыце гэтым нашым наступнікам закончыць распачатую эдукацыю!

Сябры Беларускага Прафэсіянальнага Вучыцельскага Саюзу далі сваей ахвярнасьцяй прыклад усім: на сваей канфэрэнцыі яны пастанавілі зрабіць аднаразовую пяціпрацэнтную адлічку ад месячнага заробку — на гэту мэту. Няхай тое-ж зробяць усе сьведамыя беларусы, і некалькі дзесяткоў вучняў-беларусаў будуць уратаваны ад страшнае і для іх, і для ўсіх нас пагрозы.

Памятайце, што ніхто нам у гэтым не дапаможа—апрача нас саміх.

Усе ахвяры на дапамогу нашым вучням пасылайце на імя віцэ-старшыні Беларускага Прафэсіянальнага Вучыцельскага Саюзу д-ра Б. Грабінскага, вул. Міцкевіча 1 у Вільні.

Імёны ахвярадаўцаў будуць сыстэматычна публікавацца ў беларускіх часопісах.

*Прэзыдыюм Беларускага*
*Прафэсіянальнага Вучыцельскага Саюзу.*

# Патрэба агранамічнага часопісу.

Як ведама, рэгіональная група ББ неаднойчы на сваіх зьездах высоўвала думку аб тым, што „найгалаўнейшая рэч, якая можа цалком здабыць сярод шырокіх масаў насяленьня нашага краю давер і прыхільнасьць да ББ“, гэта — „уздым гаспадарчага дабрабыту яго насяленьня“. Дый — праўды-ж: што можна сказаць проці гэткай думкі? Хіба толькі адно, што ня трэба для такой самамэты, як дапамога насяленьню ў паляпшэньні яго гаспадарчага быту, ставіць насамперш палітычную мэту...

Запраўды-ж: уздым гаспадарчага жыцьця—гэта падстава ўсялякага развою насяленьня, грамадзкага, нацыянальнага, духовага. Але-ж ня можна гэтага ўздыму стварыць без актыўнага ўчасьця ў ім самога працоўнага гаспадара, пераважна—гаспадара-хлебароба ў нашым краі. А далей — актыўна-творчае яго ўчасьце ў гаспадарчым адраджэньні краю трэба і неабходна трэба распачаць з уздыму і ўзгадаваньня духова-творчае асобы гэтага гаспадара. А гэтае ўзгадаваньне складаецца з двух галоўных чыньнікаў: з узгадаваньня, разьвіцьця, умацаваньня ў ім духова-актыўнай асобы чалавека, якое можа адбывацца толькі на груньце ўласнай нацыянальнай стыхіі: мовы і культуры; а

другое—з прысваеньня гаспадаром адпаведнай, патрэбнай яму дзеля сваей гаспадарчай фаховай працы веды. Гэтыя рэчы трэба добра зразумець, каб ня ставіць такой „альтэрнатывы“: трэба даць тэхнічную веду і гаспадарчы дабрабыт, каб... адцягнуць беларускага селяніна ад „беларускага нацыяналізму“...

Але якраз так неаднойчы ставілася гэтая палітычная задача на нарадах паасобных рэгіональных групаў у нашым краі. Навет „Беларуская“ „Крыніца“ робіць падобную памылку—ў такой-жа „палітычнай абэрацыі“, агітуючы сярод сялян, каб... не пасылалі дзяцей у „масонскую“ беларускую гімназію, а пасылалі ў... польскія тэхнічныя школы!

Не: польскія тэхнічныя школы ня выражаць задачы навет у яе абмежана-гаспадарчых рамах. Але аб беларускіх сельска-гаспадарчых школах неяк дзіўна гутарыць у нас цяпер (у Савецкай Беларусі—іх сотні!)— бо-ж няма ў нас навет беларускага часопісу, прысьвечанага спэцыяльна сельска-гаспадарчай ведзе. Некалькі разоў узнаўляўся такі часопіс—„Саха“, але ня здолела яшчэ дагэтуль Заходняя Беларусь падвесьці пад гэту сваю адзіную крыніцу сельска-гаспадарчае веды, найгалаўнейшае для гаспадара - хлебароба, мураваны фундамант...

Стыд і сорам нашаму грамадзянству за гэта!

# Гаспадарчы аддзел.

## Аб зімовым кармленьні жывёлы.

Пакідаючы жывёлу на зіму ў хляве, гаспадар павінен добра абмяркаваць, ці на гэтую жывёлу ў яго ёсьць адпаведная колькасьць корму, а таксама, ці гэты корм добры. Калі-ж корму замала, то гаспадар заўсёды лепей зробіць, калі прадасьць лішнюю штуку, бо куды выгадней трымаць меней жывёлы і адпаведна яе карміць, чымся трымаць яе шмат і марыць голадам.

Што-ж тычыцца кармоў, то яны бываюць вельмі неаднолькавыя. Перш за ўсё, адны із іх маюць у сабе вады болей, а другія меней. Вада, зразумела, ня мае аджыўчае вартасьці, а знача і рахавацца не павінна. Дзеля гэтага, абрахоўваючы кармы, трэба прыймаць пад увагу толькі іх сухую масу. Найболей сухога матэрыялу ў сухіх кармох, як сена, салома, зярняты, дзе на 100 частак корму прыпадае каля 85 з паловай частак сухое масы, а рэшта вада. У сачыстых і вадзяністых кармох сухое масы значна меней. У бульбе на 100 частак корму прыпадае сухое масы толькі 24 часткі, у бураках каля 12, у моркве каля 14, а ў рэпе толькі 8 з паловай.

Пасьля таго, як гаспадар абрахаваў сухую масу ў кармох, трэба палічыць, колькі гэтае масы мусіць спажыць жывёла. Аблічана, што на 1000 кілёграмаў жывое вагі каня трэба сухое масы ў корм на дзень каля 18-23 кілёграмаў пры лёгкай рабоце, а для кароў на кожныя 500 кілёграмаў жывое вагі трэба каля 12 кілёграмаў сухое масы ў корме. Абрахаваўшы колькасьць сухое масы, патрэбнае для жывёлы на дзень, можна лёгка аблічыць, колькі яе трэба на ўсю зіму (жывёла ў нашых краёх стаіць у хляве каля сямёх месяцаў). Зрабіўшы гэта, трэба высьвятліць, ці прызапашаны ў гаспадара корм ёсьць цалком добры. Аб тым, якая кармавая якасьць тых ці іншых кармоў і як із іх рацыянальна складаць кармавыя порцыі, мы тут гаварыць ня будзем, бо на гэта няма мейсца. Той-жа, хто хацеў-бы карміць жывёлу па нормам, павінен абзавясьціся адпаведным падручнікам. Скажам толькі агулам, што правільным кармленьне будзе толькі тагды, калі ў корме бялок і вуглегідраты (цукар, крахмаль) знаходзяцца ў пэўных суадносінах. Гэта знача, што жывёлу нельга карміць кармамі толькі з адным складнікам, прыкл., кармамі багатымі на крахмаль або цукар, што пры гэтым павінна быць адпаведная колькасьць корму багатага на бялок (макуха, вотрубы).

Ведаючы больш менш якасьць свайго корму і яго колькасьць, можна карміць жывёлу раўнамерна, а гэта мае вялікае значэньне. У нас часта-густа бывае, што гаспадар спачатку скармляе адны кармы, прыкл. карэньплоды, а пасьля па парадку іншыя. Бязумоўна, пры такім палажэньні ў адзін пэрыяд часу жывёла дастае зашмат кармоў багатых на вуглегідраты (буракі, бульба), а замала кармоў багатых на бялок (вотрубы, макуха, канюшына), а ў другі пэрыяд наадварот: шмат корму, багатага бялкамі, але замала вуглегідратаў. Як у першым, так і ў другім выпадку жывёла належна ня можа выкарыстаць корму і марнее. Пры гэтым трэба адзначыць, што наагул, чым болей рознародных кармоў жывёла адначасна спажывае, тым лепей гэтыя кармы ею будуць выкарыстаны.

Апрача ўсяго вышэйсказанага, шмат робіцца пры кармленьні і іншых памылак. Заўважана, прыкладам, што нашы гаспадары часта з вотрубаў робяць пойла, або мяшаюць канцэнтраваны корм (макуха, вотрубы) з сечкаю. Ад такога кармленьня паступовы гаспадар павінен устрымацца раз на заўсёды. Канцэнтраваны корм найкарысьней даваць самастойна,— не мяшаючы з іншымі грубымі кармамі і ні ў якім разе з вадою. Калі канцэнтраваны корм спажывае жывёла асобна, то гэты корм у жалудку спатыкаецца з неразбаўленымі жалудачнымі сокамі і, дзякуючы гэтаму, корм выкарыстоўваецца паўней.

Другою вымогаю ў кармленьні ёсьць пунктуальнасьць. Гэта знача, што жывёла павінна карміцца кожны дзень у той самы час: не пазьней і не раней. У той час, калі жывёла прызвычаілася спажываць корм, да жалудку выліваецца шмат травячых сокаў і, калі ў гэты час жывёла не атрымае корму, то шмат гэтых сокаў змарнуецца дарма, а корм, спажыты пазьней, ня будзе належна страўлены.

Нарэшце трэба колькі слоў сказаць аб карміленьні жывёлы карэньплодамі. Па першае, перад тым, як даваць карэньплоды жывёле, трэба іх абавязкова добра вымыць. Усе карэньплоды можна даваць сырымі; толькі бульбу трэба парыць і то толькі для сьвіней і коней. Некаторыя з нашых гаспадароў перад тым, як даваць карэньплоды жывёле, іх дробна сякуць, але гэта зусім дарэмна, бо жывёла хутка навучаецца іх есьці цэлымі, і пры гэтым, дзякуючы большай колькасьці вылучанай сьліны, яны значна лягчэй травяцца.

С. А.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Пазбаўленьне дапамогі.** Дзяржаўная дапамога, якая была давана на ўтрыманьне Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні, спынена ўладамі ад сьнежня месяца 1933 г.

**У Беларускім Прафэсіянальным Вучыцельскім Саюзе.** Перад самымі Калядамі адбылася канфэрэнцыя і агульны гадавы сход сяброў Саюзу. Канфэрэнцыя была пасьвячона справам пэдагогічнага характару, пры чым была закранута справа ратаваньня незаможных вучняў беларускіх гімназіяў, якім пагражае звальненьне з прычыны няўзносу платы за мінулыя паўгодкі. Сябры Саюзу пастанавілі зрабіць на гэту мэту аднаразовую пяціпрацэнтную адлічку ад свайго месячнага заробку і зьвярнуцца да ўсяго грамадзянства з заклікам зрабіць тое-ж.

На агульным сходзе, пасьля выслуханьня справаздачы старога ўраду, разгледжаны быў плян працы на наступны год. Пастаноўлена ад часу да часу склікаць канфэрэнцыі беларускіх вучыцялёў—наперамену ў Вільні і Навагрудку. У склад новага ўраду выбраны: старшыня—А. Луцкевіч, віцэ-старшыні—дырэктар І. Цеханоўскі (з Навагрудка) і д-р Грабінскі, скарбнік — Яз. Шнаркевіч, сэкрэтар—В. Грышкевіч.

**Просьба прыхаджан Еўфрасіньнеўскае царквы.** У Рэдакцыю „Р. Кр." зьвярнуліся прыхаджане Еўфрасіньнеўскае царквы (на могілках), абураныя тым, што дзеялася ў гэтай царкве ў часе каляднага служэньня, з просьбай зьмясьціць у газэце наступнае. Дзякуючы пабочнай інтэрвэнцыі, туды толькі-што назначаны за псаломшчыка гр. Сарока, ведамы тым, што — супольне з гр. Вернікоўскім — у сваей прэсавай кампаніі проці вышэйшых духоўных уладаў эпархіі ўжываў недапусьцімых спосабаў барацьбы, брудных закідаў і г. д. Сьпярша арх. Хвядос паставіў варункам назначэньня гр. Сарокі самаапраўданьне яго ў прэсе; аднак, ня гледзячы на неспаўненьне гр. Сарокай гэтага варунку, назначэньне яго адбылася.

Вось-жа прыхаджане, сабраўшыся на калядную службу, у знак свайго абурэньня усім гэтым, блізу ўсе дэманстрацыйна павыходзілі з царквы, а тыя, хто астаўся, былі яшчэ больш абураны спосабам адпраўляньня службы. Праз няўмеласьць гр. Сарокі служэньне блуталася і мамэнтамі абрывалася, робячы вельмі цяжкае ўражаньне.

Парахвіяне быццам маюць іесьці ў гэтай справе да архіяпіскапа.

## На правінцыі.

**Беластоцкія работнікі працуюць.** Характэрнай праявай прабуджэньня беларускага нацыянальнага пачуцьця ў беластоцкіх работнікаў—нядаўных выхаджэнцаў з беларускае вёскі — ёсьць праца іх на беларускай культурнай ніве. Гэтак у Беластоку ўтварыўся беларускі выдавецкі кооператыў „Сяўба" (Białystok, ul Marsz. Piłsudskiego 6, m. 5), каторы маніцца распачаць працу дзеля здаваленьня беларускіх працоўных масаў вёскі і места—кніжкай у роднай мове. Кооператыў маніцца закладаць кнігарні, бібліатэкі-чытальні, а такжа выдаваць кніжкі і часопісы.

Надовячы кооператыў „Сяўба" выпусьціў адозву „Да Беларускага Працоўнага Народу", заклікаючы да ўступаньня ў лік сяброў кооператыву і супрацоўніцтва з ім.

**Крывавая забастоўка.** (Шудзілава, Сакольск. пав.). У Беласточчыне, Горадзеншчыне, а такжа часткова Слонімшчыне ды Берасьцейшчыне ўзьняўся шырака з'арганізаваны забастовачны рух лясных работнікаў на чыста эканамічным груньце, бо-ж, паводле апублікаваных у газэтах вестак, варункі працы тамака папросту немагчымыя. У сувязі з арыштам цэлага раду забастоўшчыкаў, абвінавачаных, як падае ПАТ, у „актах гвалту", у Шудзілаве каля паліцэйскага пастарунку 4-га студня сабралася таўпа забастоўшчыкаў, дамагаючыся звальненьня арыштаваных. Калі таўпа на трэбаваньне каманданта пастарунку не разыходзілася ды быццам пачала кідаць камні ў пастарунак, паліцыя распачала страляніну. Спасярод забастоўшчыкаў ад стрэлаў згінуў работнік Уладзімер Хоўчык.—Хутка пасьля разгону таўпы прыехаў туды староста, па загаду якога заарыштавалі яшчэ 15 забастоўшчыкаў.

**Агідная спэкуляцыя.** (Глыбокае, Дзісьн. пав.). За 2-3 тыдні да калядных сьвятаў па ўсей Дзісьненшчыне пайшлі весткі аб тым, быццам на кірмашы ў Глыбокім, а так сама ў іншых гандлёвых асяродках павету, у дні

18-23 сьнежня маюць зьявіцца „купцы з Саветаў“—прадстаўнікі „Внешторгу“, якія будуць рабіць вялізарныя закупы жывога й бітага мяса. Сцьверджана, што чуткі гэтыя ў некаторых вёсках пашыраліся чуць-што не „афіцыяльна“ (?) — навет солтысамі... Такім чынам ня верыць ім ня было падставаў. У выніку гэтага на рынак у Глыбокім на 18 сьнежня навезьлі нячуваную колькасьць сьвіней, скаціны і інш. Везьлі даслоўна з усяго павету, ня спыняючыся перад далечынёй. Зразумела-ж — „савецкія купцы“ не зьявіліся, але за тое мяйсцовыя ды прыезныя краёвыя спэкулянты зарабілі вялізарныя грошы, скупляючы за паўцаны апошнюю жывёлу і без таго згалелага селяніна. Дзе знайсьці ўправу на гэткія штучкі?

**З праваслаўнага жыцьця.** Нам пішуць з Дзісьненшчыны:

У сваім часе, як мы дачуліся, вышэйшая царкоўная ўлада разаслала кансысторыям загад аб тым, каб беларускім дзецям Закон Божы выкладаўся пабеларуску, каб у беларускіх прыходах казаньні ў царкве казаліся пабеларуску. У апошні час віленская кансісторыя выдала навет загад а. а. благачынным—пабеларуску пісаць мэтрыкі бацьком-беларусам. Дык зусім дзіўным выдаецца, што самі гэтыя а. а. благачынныя, стаўленікі віленскае кансісторыі, так мала послуху дый пашаны выказываюць да загадаў вышэйшых царкоўных уладаў, бłізу нідзе не спаўняючы гэтых загадаў, але йшчэ — наадварот—робячы на сваю руку націск на прыходзкіх сьвяшчэньнікаў, каб „ніякіх уступак беларускаму руху не рабілі“...

Прыклады й факты? Спаміж жмені ведамых нам—бярэм найбольш сьвежыя.

На апошнім зьезьдзе благачынскім у Язьне (Дзісьн. пав.) благачынны а. Нікіфар Моісеёнка правёў пастанову аб тым, каб ніякага „беларускага духу“ у царкву ня пушчаць... Знайшлося, праўда, сярод прыходзкіх сьвяшчэньнікаў некалькі разумных, якія пробавалі абараніць ад гвалту пашану, ну, калі не да нацыянальнай душы і правоў народу, дык прынамся да аўтарытэту вышэйшых царкоўных уладаў... Але благач. а. Нікіфар поруч з прот. а. Лузгіным—перамаглі..

Другі факт. Благачынны Пастаўск. пав. а. Выдрыцкі, атрымаўшы ад аднаго з прыходзкіх сьвяшчэньнікаў паперу ў беларускай мове, афіцыяльна адказаў яму, зьвяртаючы паперу, што ён гэтае мовы не разумее, а трэбуе, каб да яго пісалі парасейску!...

Ці ня досыць прыкладаў?!

**Народ для царквы, ці царква для народу?** Да нас пішуць з Гародзькаў:

У нашым гаротным Гародзькаўскім прыходзе на Новы Год (па стар. стылю) маюць выбіраць царкоўнага старасту. Дасюлешні староста, сумленны чалавек, не дабыў сроку—адмовіўся, быццам, дзеля „хваробы“. Але кажуць голасна у нас усе, што „захварэў“ ён толькі з суму ды з жалю—аб тым стане, у якім знаходзіцца нашая царква... Справа ў тым, што наш бацюшка ўсе грошы, якія зьбірае прыход на царкву, адсылае благачыннаму дый у кансісторыю—ў той час, калі царква нашая цячэ дый наагул патрабуе капітальнага рамонту. Дык вось сярод прыхаджан-беларусаў узьнялася думка, каб пры выбары новага (а мо' й таго самага!) старасты даць яму паркоўна-грамадзкі загад: перш, як адсылаць царкоўныя грошы ў кансісторыю, затрымаць усё, што патрэбна на рамонт царквы. Бо-ж гэта—проста скандал: каб у царкве як быццам з неба дождж ліўся на галовы прыхаджан, а сабраныя з іх кішэняў на царкву грошы йшлі ў кансісторыю.

## У Латвіі.

**Урачысты акт.** 30 сьнежня ў Рызе адбыўся ўрачысты акт з прычыны дзесяцілецьця І-ае Рыскае Мястовае Беларускае Асноўнае Школы. З Вільні на акт паслалі прывітаньні прэзыдыюм Белар. Праф. Вучыцельскага Саюзу і паасобныя беларускія дзеячы.

# Палітычная хроніка.

**Дапамога галадаючаму насяленьню.** На апошнім перад сьвятамі паседжаньні Эканамічнага Камітэту Рады Міністраў прынята паміж іншым пастанова аб безадкладнай дапамозе галадаючаму сельскаму насяленьню „крэсаў“ (хіба-ж нашых беларускіх!). Пастанова прадбачыць перадачу т. зв. фонду працы значнай колькасьці жыта—з дзяржаўных запасаў — на дапамогу малазямельнаму сялянству, якое — у сувязі з стыхійнымі спусташэньнямі і неўраджаем — у цэлым радзе паветаў усходніх ваяводстваў апынулася ў надзвычайна цяжкім палажэньні. Акцыя дапамогі, як падае афіцыяльны камунікат, намечана ў шырокіх разьмерах. Аказаную дзяржавай дапамогу насяленьне галодных раёнаў мае, па меры магчымасьці, адрабляць, зьвяртаць працай — паводле апрацаванага Фондам Працы пляну публічных работ.

Падаючы аб гэтым да ведама нашых чытачоў, просім нашых карэспандэнтаў з гэтых галодных раёнаў паведамляць нас, як гэта будзе праводзіцца на мяйсцох.

---

**Прысуд у справе аб падпал Рэйхстагу.** Колькімесячны працэс аб падпаленьне гмаху Рэйхстагу скончыўся прысудам на сьмерць аднаго толькі галоўнага абвінавачанага, галяндзкага „камуніста“ фан-дэр-Люббэ. Рэшта падсудных: нямецкі камуніст пасол Торглер і баўгарскія камуністы з Дзімітравым на чале — апраўданы.

Як бачым, навет гітлераўскі суд ня здолеў перакінуць віну падпалу на камуністаў ды гэтым самым паказаў, што „нявыкрытымі“ супольнікамі фан-дэр-Люббэ маглі быць толькі саміж... гітлераўцы.

**Палітычна-ваенны „саюз" між СССР і Амэрыкай (?).** З Масквы йдуць весткі аб магчымасьці падпісаньня ваенна-палітычнага трактату СССР з Амэрыкай, які мае мець, зразумела, „выключна абаронны характар". Плян гэткага трактату павёз быццам у Вашынгтон новы амэрыканскі пасол Бюльліт — пасьля колькігадзіннай гутаркі з самім Сталіным — у кватэры Варашылава. Трэба думаць, што да „саюзу" з Амэрыкай толькі што прызнанага апошняй СССР — яшчэ далёка, але ясна, што супольная грозная небясьпека з боку Японіі — для СССР на сушы, а для Амэрыкі — на акеане, — зусім натуральна пхае абедзьве вялізарныя дзяржавы да супрацоўніцтва, а ў першую чаргу — у галіне ўзаемнай абароны проці супольнага ворага, — тым больш, што „ваенная партыя" расьце ў Амэрыцы, адпавядаючы японскай, не дзямі, але гадзінамі.

**Сьмерць Луначарскага.** У канцы сьнежня памер у адным з заграмічных курортаў б. камісар асьветы СССР Луначарскі, адзін з найстарэйшых бальшавікоў, асабісты прыяцель Леніна.

**„Нямецка-украінскі саюз".** Сакратар ЦКК партыі Украіны Хотаевіч заявіў, што Савецкі урад мае пэўныя весткі аб тым, быццам паміж нямецкім урадам і заграмічнай экспозытурай украінскіх сэпаратыстаў (незалежнікаў) вядуцца перагаворы аб варунках нямецка-украінскага саюзу на выпадак здабыцьця незалежнасьці Украінай. Перагаворы ў апошні час вялі ген. Гэрынг з ведамым палк. Канавальцам. За ўсемернае падтрыманьне з боку гітлероўскай Нямеччыны вызваленчага руху сярод украінцаў палк. Канавалец быццам абяцаў даць Нямеччыне ў будучай незалежнай Украіне вялізарныя гаспадарскія канцэсіі ды апроч таго аддаць пад нямецкі кантроль армію і заграмічную палітыку Украіны...

Уся савецкая прэса страшыць гэтымі брэднямі сьвет.

**Забойства румынскага прэм'ера.** 29 сьнежня на вагзале каралеўскай рэзыдэнцыі ў Сінаі забіты стрэлам з рэвальвэру румынскі прэм'ер Дука. Забойца — малады студэнт бухарэшцкага унівэрсытэту, чынны сябра фашыстаўскай арганізацыі „Жалезная Гвардыя", нядаўна зачыненай урадам Дукі. Як можна думаць, агіднае здарэньне мае шырэйшы грунт француска-нямецкага змаганьня за ўплывы ў Румыніі. Забіты прэм'ер Дука стаяў на чале партыі лібэралаў, маючай рашучую орыентацыю на Францыю, дый вёў вострую барацьбу з румынскімі „нацыянал-соцыялістамі", выразнымі прыхільнікамі Нямеччыны.

**Мангольска-Манджурская дзяржава.** Японскае ваеннае камандаваньне ў Манджурыі абвясьціла падучэньне ўсей заваёванай японскім аружжэм Унутранай Манголіі да Манджурскай дзяржавы.

**Марская зброеньні Японіі.** Японскі ўрад апублікаваў праект новай „вялікай праграмы" разбудовы марскіх і паветраных сілаў Японіі. Праграма прадбачыць пабудаваньне ў 4 гады 2 вялікіх браняносных крэйсараў, 2 авіоматак, 14 контрмінаносцаў, 4 падводных лодак, 8 эскадр гідраплянаў і — нязьлічанае масы меншых баявых адзінак флёту. Але галоўнае значэньне мае ня гэтая „надбудова" над сілаю сучаснага флёту, прадбачаная Вашынгтонскай канфэрэнцыяй. Важнейшае значэньне мае грунтоўная перабудова ўсяго складу японскага флёту, якая ў 3 — 4 разы павялічыць баявую сілу японскага флёту!.. Разбраеньне—дык разбраеньне!!

**Нябывалая катастрофа.** Напярэдадні сьвята Нарадзінаў Хрыста пад самым Парыжам здарылася нябывалая па лічбе ахвяраў катастрофа кур'ерскага цягніка. У выніку наскоку аднаго цягніка на другі забіта звыш 200 асоб, а паранена больш як 300.

# Дыплёматычная дуэль.

Як раз у часе калядных сьвятаў дайшла да найвышэйшага напружаньня дыплёматычная барацьба паміж Нямеччынай і Францыяй. Як ведама, Нямеччына, выйшаўшы з складу Лігі Нацыяў дый з разбраенчай канфэрэнцыі, заявіла, што ўсе свае справы і споры будзе вырашаць шляхам беспасярэдніх перагавораў з заінтэрэсаванымі дзяржавамі — адзін на адзін з кожнай. Такім спрытным крокам Гітлер яшчэ раз удэрыў па Вэрсальскаму Трактату, які прынцыпова ставіў Нямеччыну перад супольным фронтам саюзных дзяржаў. Зараз-жа пасьля гэтага Гітлер зьвярнуўся да Францыі з конкрэтнай прапазыцыяй узаемнага паразуменьня ў справе зброеньня-разбраеньня. Гітлер згаджаўся... не настайваць на разбраеньні Францыі, абяцаным паводле Вэрсальскага Трактату, калі Францыя, з свайго боку, прызнае Нямеччыне права на дазброеньне — ў такім разьмеры:

1. Нямеччына захоўвае фаховую (наёмную) армію, але павышае яе лічбу з 200 да 300 тысяч.

2. Для гэтай арміі Нямеччына мае права мець без абмежаньня ўсе роды і віды зброеньняў, апрача цяжкай (офэнзыўнай) артылерыі.

3. Нямеччына захоўвае ўсе свае „мірныя, спартова-палітычныя", (а пасутнасьці — чыста ваенныя!) арганізацыі.

4. Нямеччына атрымлівае права будаваць на сваіх граніцах украпленьні, як гэта зрабіла Францыя.

Атрымаўшы гэткую „прапазыцыю", Францыя доўга думала, радзілася з вялікімі дзяржавамі дый з сваімі саюзьнікамі на Усходзе Эўропы, а такжа гутарыла праз свайго пасла ў Бэрліне з нямецкім урадам. Урэшце — дала свой адказ Нямеччыне. Адказ можна зьмясьціць у адным слове: „Не!" — „Не", — кажа Францыя, — бо ня мае

права фармальна дый ня можа пасутнасьці. Справа разбраеньня-збраеньня можа быць вырашана толькі ў агульнай для ўсіх форме дый на супольным груньце Лігі Нацыяў і на разбраенчай канфэрэнцыі. Францыя можа абяцаць толькі за сябе самую зрабіць рашучыя крокі на шляху да ўласнага разбраеньня, але толькі—на падставе ведамай французкай формулы: „сьпярша загарантаваньне бясьпечнасьці, а пасьля—разбраеньне".

Гэтая рашучая адмова з боку Францыі вельмі ўсьцешыла ўсіх саюзьнікаў Францыі, але вельмі засмуціла Італію ды Англію, ня кажучы ўжо аб Нямеччыне, дзе выклікала буру абурэньня.

Кажучы аб'ектыўна, адказ Францыі вяртае ўсю справу аб раўнапраўі Нямеччыны, як вялікай дзяржавы, ізноў на яе пачатак, заганяючы яе ў тупік. Бо-ж Францыя змушае Нямеччыну вярнуцца ў склад Лігі Нацыяў, што Гітлер рашуча адкідае. Таму свае дазбраеньне Нямеччына будзе вырашаць фактычна сама, ня пытаючыся ні ў каго.

# На сэсіі Ц. В. К-ту СССР.

## Экспозэ Літвінава.

На сэсіі Ц. В. К. СССР Літвінаў выступіў з вялікай прамовай, у якой даў агляд міжнароднага палажэньня і вонкавых стасункаў СССР.

Вельмі востра крытыкаваў Літвінаў гітлераўскую Нямеччыну, якая сталася новым вогнішчам расовай ненавісьці і вайны між народамі.

Вельмі рэзка кляйміў ён і Японію, якая дазволіла сваім генэралам таптаць чужыя граніцы і трактаты, падпісаныя яе ж дыплёматамі.

Пералічаючы дзяржавы, з якімі СССР наладзіў асабліва добрыя адносіны, Літвінаў з найбольш сэрдэчнай прыязьняй спыніўся на Польшчы, падчырківаючы з моцным націскам „супольнасьць інтарэсаў абедзьвюх дзяржаваў", як і „супольнасьць небясьпечнасьці", якая зьяўляецца заўсёды найлепшым цэмэнтам прыязьні паміж народамі.

## Непераможны нацыяналізм на Савецкай Украіне.

На бягучай сэсіі Цік'а СССР камісар асьветы Сав. Украіны Затонскі трэбаваў новых бічоў і скарпіёнаў проці украінскіх нацыяналістаў. Але характэрна, што заразай гэтага „нацыяналізму", а навет „украінскага сэпаратызму" (гэта значыць: незалежніцтва ці імкненьня да аддзяленьня ад Масквы) ахоплены ня толькі даўно разьбітыя „чацдэмы", але і самі украінскія камуністы!

## Бюджэт СССР.

Цэнтральны Выкан. Кам. СССР разглядаў бюджэт на 1934 г, апрацаваны камісарам фінансаў Грынко. Бюджэт прадбачыць даходаў на 48 мільярдаў 700 мільёнаў руб. і выдаткаў на 47 мільярдаў 200 мільёнаў р. Такім чынам прадбачыцца лішка ў паўтара мільярда рублёў. Новы бюджэт мае „галоўным лёзунгам" узмацненьне савецкай валюты. Таму прадбачацца ашчаднасьці ў выдатках на адміністрацыю—ў суме 700 міл. руб. У сваім дакладзе кам. Грынко скардзіўся на значную лічбу растратаў і зладзействаў, якія ўсьцяж маюць мейсца ў „фінансавым апараце" ўраду.

## Другая „пяцілетка".

25 студзеня пачынаецца ў Маскве XVII Усесаюзны Зьезд кам. партыі. Гэты зьезд мае першым чынам зацьвярдзіць прыняты ўжо Політ. бюро партыі **другі пяцілетні плян гаспадарчае разбудовы СССР.** Галоўнай мэтай другой пяцілеткі зьяўляецца „канчальная ліквідацыя (зьніштажэньне) капіталістычных элемэнтаў—на падставе поўнай калгасацыі"...

Аднак, відаць, жывучыя гэтыя „капіталістычныя элемэнты", бо-ж іх „канчальнае зьніштажэньне" займае фактычна ўжо чацьвертую пяцілетку!... Здаецца, што Сталін падыйшоў да справы не з таго канца.

## Рэарганізацыя кам. партыі.

На той-жа XVII зьезд падрыхтаваны ведамым Кагановічам (правая рука Сталіна) праект рэарганізацыі кам. партыі.

Праект прадбачыць зьмяншэньне на 15 проц. залішне вялікага „апарату кам. партыі", барацьбу з бюрократызмам і — новыя вельмі жорсткія варункі пры прыйме ў партыю. Партыя мае папаўняцца пераважна ў першую чаргу прамысловымі работнікамі дый толькі пасьля 5 лет фабрычнай працы, пасьля—салдатамі чырвонай арміі, далей інжэнерамі і народнымі вучыцялямі, урэшце сялянамі з калгасаў. Каб папасьці ў партыю, трэба будзе заручыцца „жырам" некалькіх заслужаных камуністаў.

# Паштовая скрынка.

Усім нашым падпішчыкам, якія прышлюць нам падпісныя грошы прынамся за 3 месяцы (1 зл. 20 гр.), будзе безадкладна разасланы, як бясплатны дадатак, Беларускі Адрыўны Календар на 1934 г. са сьценкай выданьня Т. Б. А. **Адміністрацыя.**

Гр. **Ів. Пышку** ў в. Зачэпічы. Рэклямацыю аб неакуратнай дастаўцы Вам газэты падалі, бо-ж газэта высылаецца рэгулярна. Нехапаючыя ў Вас №№ высылаем, але Вы, з свайго боку, паклапацецеся з падпіснымі грашыма.

Гр. **Ігн. Брылевічу** ў в. Насоўка. Газэту высылаем. Дзякуем за добрыя жаданьні, але — шлеце падпіску.

**Групе моладзі** ў в. Вялікая Бухоўшчына, Нясьвіжск. пав. Пісьмо Вашае атрымана. Адказ на яго, статут і інструкцыю аб залажэньні бібліятэкі Т. Б. А. вышлем у пісьме. Нажаль—так хутка, як-бы і Вам і нам хацелася, справа залажэньня б кі ня зробіцца.

**Падпісныя грошы атрыманы ад гр. гр.** адв. Сьвірыда з Наваградку — 3,50, Бегяньскага з Чапельшчыны — 1,20, Пышкі з Зачэпічаў — 1,20, сьв. Ів. Сергіса з Князгініна — 2 зл.

# ЛІТЭРАТУРНЫ КУТОК.

**Ар. Ат.**

* * *

Прыйшоў нехта к вёсцы новы—
Стаў нязнаны ля варот...
Тэлеграфнымі стаўбамі
Загудзеў таёмна дрот.
Скора прыйдзе...
Скора прыйдзе...
Ўсьцяж стаўбы гудуць таёмна.
— Хто-ж такі?
пытае вёска —
з ціхай дрожжу і нясьмела.
І адкульсьці—злосьць трывогі —
Звонам медным адазваўся:
Праклят будзе...
Праклят будзе...
Праклят намі, небам, Богам,
Хто па тым пойдзе дарогам!
Скора прыдзе...
Скора прыдзе...
Ўсьцяж стаўбы гудуць таёмна.

**М. Крывіцкі.**

## „П А Ж А Р“.

Пасварыўся Грыц з Грыпінай,
Што разьбіла цэбар,
І пачаў даваць у сьпіну
Бухтэлі—ды ў рэбры.
Няма рады для кабеты—
Крычыць: палахцею!
Як пачулі людзі гэта, —
Так і патрупелі.
Ганна—скрыню цягне з клеці,
Дарка—кросны, вілы,
А Тадорка—з ложкам дзецяў,
Адзежу—Даніла.
Мітрафан схапіў ганучы
І крычыць: прапалі!
А Луцэя скача „з кручы“,
Што рабіць—ня знае.
Толькі дзед Няфед адразу
За вядро—ды к Грыцу
І давай на комін ўзлаліць
Паліваць вадзіцу.
Адно ўліў вядро, другое,
Аж—Грыпіна з крыкам:
„Ты здурэў, падла старое,
Цябе хто тут клікаў?!
Як пачну вось акладаці
Кацюбою гада!
Хто пажар тут які бачыў?
Гэта ў нас—нялады“...
— „Дык нашто было страшыці!?
Эх, каб ты сканала!“
У кожнай вёсцы—ня зьлічыці
Гэтакіх „пажараў“.

## Літэратурныя навіны.

4. *М. Блісьцінаў. „Агні Палесься“*, п'еса ў трох дзеях. Бел. Дзяр. Выд. Менск, 1931. 71 стр.

П'еса прадстаўляе змаганьне групы бальшавікоў з Палескімі паўстанцамі, якія, на чале з Стрэкапытавым, расстрэліваюць камуністаў і робяць розныя гвалты. З памаччу войск чырвонай арміі і групы рабочых урэшце паўстанцы разгромлены і ўцякаюць. Завод, разбураны падчас вайны, пушчаецца ізноў у ход.

П'еса ўводзіць чытача ў пэрыпэтыі змаганьня, малюючы розныя тыпы з абодвух лягераў.

Побач з акцыяй агульна-палітычнай разьвіваецца акцыя асабістая (Лігач-Граноўскі, Людміла, Максім, Марына). Мы бачым пэўную псыхолёгічную эволюцыю ў некаторых гэрояў.

Аўтар робіць цікавай акцыю праз абрываньне яе ў мейсцы вялікага напружаньня. У далейшым толькі цягу п'есы мы даведываемся, што з гэроямі станецца. Да таго-ж часу мы пакінуты ўласным згадкам.

---

Зьвяртаемся да людзей добрай волі з прапановай выданьня зборніку гумарыстычных вершаў М. Крывіцкага „Крапіў'е“. Выданьне зборніку будзе каштаваць найболей 50 зл. Выдаўцу, які-б знайшоўся, усе поэты Зах. Беларусі напішуць верш, які будзе пачынацца наступна: „Дарагі Выдавец!“...

Выдавец—радзіся!
Выдавец—знайдзіся!
Выдавец—прачніся!

---

**Рыначныя цэны ў Вільні. (9. I. 1934).**

Жыта 2 зл. 55 гр. дэт. 2 зл. 60 гр. Ячмень гурт. 2 зл., 30 гр. дэт. 2 зл. 40 гр. Авёс гурт. 1 зл. 80 гр дэт. 2 зл. 00 гр. Пшаніца гурт. 3 зл., 00 гр. дэт. 3 зл. 20 грашей. Бульба пуд. 80 грашей, дэт. 1 зл. 20 гр. Саланіна 1 зл. 60 гр.—1 зл. 80 гр. Шмалец 2 зл. — 2 зл. 40 гр. Масла прас. 2 зл. 70 гр. — 3 зл. 00 гр., масла гаспадар. 2 зл. 20 гр.—2 зл. 40 гр. Яйкі 8-10—10-14 гр. Даляр 5 зл. 64 гр.

---

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22